# Аксамітны жах

INTERNATIONAL EDITION

г. Гомель, 2004 год, верасень месяц №15

Талакоўцы вандруюць ад самага пачатку сваёй нефармальнай дзейнасьці, вандруюць з ахвотаю, вандруюць з імпэтам, вандруюць з прыгодамі. На жаль, ніхто не здагадаўся падлічыць кіламетраж, які «наматалі» валацугі за ўсе васемнаццаць год свайго існаваньня, а гэта я вам скажу — ого-го! Калі мець адпаведнае жаданьне, з такім вандроўным «стажам» можна было б дабрацца ад Берасьця да Брэста, альбо дасягнуць Уральскіх гораў, дзе, як вядома, «уся табліца Мендзялеева». Ды толькі талакоўцам карціць выведаць-вывучыць сваю Бацькаўшчыну, таму вольную Эўропу штурмуюць маладзенькія актывісты недзяржаўнага офіснага руху, прыгожыя ўдзельніцы супер-семінараў, ахайныя дэмакратычна настроеныя падлеткі, карацей, усе тыя, каго Якаў Пятровіч Стывенсан паважліва мянуе «лейбарыстамі». Яны толькі рыхтуюцца змагацца за сьветлае заўтра сваёй Айчыны, а на прасьцягах Гомельшчыны сноўдаюцца ўсё ж тыя мілыя сэрцу аўтсайдэры, перагукваючыся ў густым, як малако, тумане: «Ігар, у мяне тут мокра!» «Антоне, ты ня маеш рацыі» «Сяржук, мне — гамон!»

Як гэта не падобна на тыя майстар-класы, прэзентацыі і джэм-сэйшны, адкуль моладзь прылятае акрыленая і поўная ідэяў, ініцыятываў, вітамінаў, візітных картак і планаў назаўсёды пакінуць гэтую чароўную краіну.

«Каб любіць Беларусь сваю родную, трэба ў родных краях пабываць...»,— адзначыў актывіст талакоўскага руху, ілюструючы прагу сяброў суполкі да краязнаўства. Яны, не надта давяраючы замежным камандыроўкам сваіх увішных калегаў, імкнуцца паглыбіцца ў terra pater, звычайна за свае ўласныя грошы.

Талакоўскія выправы — гэта нешта сярэдняе паміж звычайным турызмам, экспедыцыяй аддзяленьня этнаграфіі НАН Беларусі і піянерскай гульнёй «Зарница». З усяго, што прыносяць з сабою вандроўныя з такіх праменадаў, найбольш уражваюць успаміны, бо часта гэта адзінае, што апраўдвае і затрачаны час, і затрачаныя сродкі.

Зьбяруцца кружком талакоўцы і талакоўкі, выключаць сьвятло, запаляць сьвечачку ды й пачнуць баяць, хто што памятае: «...тады мы ледзь ногі ўкінулі...», «...прачынаюся, а нада мною — лось!», «...ён мяне — цоп за грудзі, а я яго — па пысе, па пысе...», «...а памятаеш?» — і вочы зіхцяць зыркім малайцоўскім агеньчыкам. І гэта можа доўжыцца бясконца, як бясконцыя талакоўскія вандроўкі: з адной вярнуліся — дзьве ў галаве. Ані касеты, ані фотаздымкі, ані артыфакты ня маюць для валацугаў канчатковае вар-тасьці. Зрэшты і дасьледчыкамі яны сябе не называюць, бо ня ставяць мэтаю дасьледаваньне. Для талакоўцаў мае вартасць ня вынік, а сам працэс.

Вось і гэты матэрыял, перш чым аформіцца ў нешта канкрэтна аксамітнае, прайшоў цярэністы шлях калегіяльнага напісаньня, рэдагаваньня «с пристрастием» і друку. Але й гэта ўжо істотна, і нават калі нічога іншага мы не дачакаемся, такі вынік вандроўкі 1998 году задавальняе і старшыню суполкі, і выбарную Раду, і ўсіх пачэсных талакоўцаў, добрых малойцаў, ды й што казаць: задавальняе рэдакцыю газэткі.

По даручэньні рэдакцыйнае Рады
**Знаёмы Вам**



# ЧАТЫРЫ ПАЛЕСКІЯ НОЧЫ

**(Экспедыцыя фальклорная. Божае лета 1998 года)**

Лета 1998 года было багатым на ападкі. «Нешта неба зноў закандыбасіла — відаць, моква будзе»,— гэты аўтэнтычны выраз быў пралогам дажджлівых старонак традыцыйнай летняй трылогіі. На рэках усчалася летняя паводка; Палесьсе, якое і ў звычайныя гады не пакутуе на нястачу вады, цяпер «паплыло грунтоўна». Лужыны і нават сапраўдныя азёры стаялі на палетках ды гародах, так што разгул аква-стыхіі быў асноўным сюжэтам навінаў праўдзівых беларускіх СМІ. Складвалася ўражаньне: няўломная сельская гаспадарка рашыла-ткі павярнуцца тварам да чалавека і пераарыентавалася на вырошчваньне рысу, каб нарэшце падох з голаду амерыканскі засланец — нянавісны каларадзкі жук. Ажно пасьля густых залеваў надышла шалёная сьпёка й эксьперымент не заладзіўся, а бульба, пасаджаная даверлівымі сялянамі, зварылася ў набрынялай зямлі. Адзін знаёмы фальклярыста распавядаў, што дастаткова было выкапаць бульбу з грады, злупіць з яе мундзіры, пасыпаць сольлю і зьесьці. Што ж, ня будзем аспрэчваць сьведчаньне аўтарытэтнага чалавека.

Таму, як толькі ўдарылі сонечныя промні, валацужная фракцыя «Талакі» адчула здаровы вандроўны сьвёрб (ці можа сьвёрб быць здаровым? — Рэд.) і мабілізавала ўвесь свой патэнцыял, сплянаваўшы шматкіламетровы рэйд у даўно аблюбаванае Палесьсе; і хоць іншыя гістарычныя вобласьці краіны — Навагрудзкая Літва і Белая Русь нічым ня горш, як справядліва адзначыў клясік талакоўскага руху: «Да Палесься яны ня маюць ніякага дачыненьня». Гэтага разу Талака (далей па тэксьце Талака будзе пазбаўленая ад ганебных для Суполкі двухкосьсяў) пашырыла свой статутны арэал дзеяньня (Push the Limits), бо была «прыхоплена» й Берасьцейшчына-Палесьсе Прыпяцкае. Насамрэч, «За Гомлем людзі ё».

## Ад'езд

Першым увечары каля будынку вакзала пунктуальна зьявіўся Уладзя і разьмясьціўся ў скверы пасярод прывакзальнае плошчы на адной з лавак, яшчэ асьветленай промнямі вечаровага сонца, паміж бамжом і дзьвюма жанчынамі нецэнзурных паводзінаў. Патроху, у лепшых талакоўскіх традыцыях (прыходзіць «пасьля трэцяга званка») сабраліся й астатнія ўдзельнікі экспедыцыі. Рэціраваццa было позна, чатыры квіткі да Жыткавічаў набытыя, і група, падхапіўшы вандроўнае майно, бадзёра рушыла на перон.

— Цягнік прыйдзе на другі пуць,— сказаў нехта.

— Пуць ці шлях? — пачулася ў адказ.

— На трэцюю-чацьвёртую рэйкі, ці другую каляіну,— скарэктаваў Кастусь.

Сьцямнела. З боку Палескага моста (Паўсюль гэтае Палесьсе. — Рэд.) паказаўся агеньчык, які паступова мацнеў і неўзабаве апынуўся ліхтаром цеплавоза цягніка Гомель — Берасьце. Цягнік засычэў тармазамі, спыніўся і група загамавалася ў вагон, які праз пэўны час абярэжна скрануўся з мейсца — пад грукат колаў пачалася экспедыцыя-98. Покуль цягнік пятлёю агінаў мікрараён «Сяльмаш», Ларыса, дастаўшы дыктафон, зрабіла «маркер» (кароткі запіс на магнітнае стужцы для разьдзяленьня тэм на касетах): «Добры вечар! У эфіры талакоўскія навіны. Група ў складзе... выехала... Мясцовы час... Канец сувязі». Надышла ноч, да Жыткавіч заставалася яшчэ чатыры гадзіны, трэба было рыхтавацца да кароткага й здаровага сну (наколькі здаровым можа быць сон на дошках плацкартнага вагона). Дзеля позьняга часу ды спакою суседзяў традыцыйныя ў такіх сітуацыях сьпевы сталіся неактуальнымі.

У Рэчыцы у вагон падсеў Вітаўт, а ў Каленкавічах — Кірыла. Такім чынам, група па ходу выправы абрастала ўсё новымі ўдзельнікамі. Цяпер талакоўцаў было шасьцёра.

## Жыткавічы

Жыткавічы — галоўны (пасьля Мазыра і Пінска) транспартны вузел Палесься, і як вузел ён з цяжкасьцю падлягае разблытваньню. Выбрацца адтуль так жа нялёгка, як і трапіць. Інтэрвал паміж цягнікамі ў бок Гомеля сягае сама мала васьмі гадзінаў, а гэта чатырыста восемдзесят хвілінаў, і што рабіць увесь гэты час, калі вы не патрапілі акурат да адпраўленьня, невядома.

Перад Жыткавічамі ніхто з валацугаў ужо ня спаў — бавілі час, гледзячы ў акно на шчыльную сьцяну начнога леса. «Гэта — першая вандроўка ўначы»,— заўважыла Лорка. З гэтага моманту адлік вандроўкі будзе весьціся менавіта па начох: першая мінула ў цягніку.

І вось, нарэшце, вандроўныя пакінулі цывілізаваны (у параўнаньні з Жыткавічамі, ён сапраўды «цывілізаваны») вагон і, перамешкаўшыся на чыгуначным, рушылі на аўтавакзал. На вуліцы было яшчэ дастаткова цёмна, але можна было разгледзець будынкі й дрэвы і нават прачытаць надпіс над уваходам у прывакзальны парк (цікава, што гэта быў за надпіс такі? — Рэд.). Падарожнікі прайшлі ўжо некалькі сотень метраў, як ззаду зьявіўся нейкі легкавік і на малое хуткасьці пачаў іх даганяць. Нават не даганяць — проста ціха ехаў за імі, нібы жадаючы, як сказала Лорка: «Фарамі высьветліць нашыя цёмныя асобы». «Патрульны»,— ня то спытаў, ня то канстатаваў факт Уладзя. На памяць прыйшоў леташні міліцэйскі рэйд па барацьбе з наркакур'ерамі, калі аналагічная вандроўка (таксама па Палесьсі) запомнілася тым, што валацугам прыйшлося даваць тлумачэньні ў пастарунку, дзе зьвярнулі ўвагу на іх вонкавы выгляд і падазроную зьнешнасьць. Можа, Жыткавічы — нейкі



пераваЛачны пункт? Але ў хуткім часе, відаць не ўбачыўшы нічога крымінальнага, «суправаджэньне», разьвярнуўшыся, зьнікла ў цемры.

Хутка ў шэрым сутоньні ўзьнік пусты бязьлюдны будынак аўтавакзала. Сядзелі на лаўках, чакалі, покуль адмыкнуць дзьверы. Узышло чырвонае (як сказаў бы Андрусь — камуністычнае) сонца. Патроху падыходзілі пасажыры. Калі дзьверы адчынілі, грамада прынялася вывучаць расклад руху аўтобусаў з улікам усіх акалічнасьцяў. Пасьля бяссоннай ночы гэта сталася нялёгкай справай: лічбы раскладу разьбягаліся, зьліваліся й зьнікалі. І хоць у рэшце рэшт штурману ўдалося скласьці з усяго набора нешта лагічнаўцямнае, пазьней наступствы гэткага непабуджанага стану атрымалі назву «жыткавіцкага сіндрому».

Тым часам жадаючых некуды ехаць набралося ўжо занадта для такога часу. Пад'ехаў арбон (Аўтобус местачковых маршрутаў. — Рэд.) антыкварнага выгляду, якую падарожнікі ня бачылі ўжо гадоў дваццаць, а калі бачылі, дык забылі.

— І такім «рарытэтам» нам наканавана ехаць? — вырвалася ў Лоркі. Але гэта апынуўся ня той. Патрэбны падышоў на палову гадзіны пазьней і адразу, нібы магніт жалезнае пілавіньне, прыцягнуў да сябе амаль усіх пасажыраў, якія былі ля аўтавакзала. Неяк прасьвідраваўшы натоўп у некаторых месцах, і гэта з улікам важкіх заплечнікаў, валацугі ўлезлі, а дакладней — іх занесла ва ўтульнае нутро транспарту. Калі экспедыцыя агледзелася, то ўбачыла, што Кірыла з Кастусём ужо сядзелі на лепшых месцах, ля самое шыбы. Засталося толькі праз ні ў чым не вінаватых пасажыраў перадаць ім «па ланцужку» дастаткова важкія рэчы.

Блізкасьць нафтаперапрацоўчага завода ды агульная сістэмная крыза эканомікі, што кожны год паглыбляецца, спрычыніліся да таго, што рухавік аўтобуса быў дызельны, акурат ад трактара «Беларусь». Кіраўніцтва аўтапарку вынайшла «ход канём» — механікі ажыцьцявілі складаную хірургічную аперацыю па перасадцы «сэрца»: вынялі пражэрлівы рухавік ЛАЗа, што атрымаў у народзе мянушку «сьмерць савецкай эканомікі» і да таго ж не стасаваўся са «скрыняй перасовак», і імплантавалі эканамічны дызель (далейшая «дызелізацыя» аўтапарку краіны адзначалася й у наступныя вандроўкі). Тое надавала паездцы асаблівы каларыт — калі ўсю дарогу цябе не пакідае ўражаньне, што, мяркуючы па гуку, ты едзеш на трактары. Параўноўваючы з той песьняй: «Йіхалы казакі — гыркацеў іх трактар...», гэты транспартны сродак ствараў велькі клопат кіроўцу, бо калі рухавік глохнуў на прыпынках, заводзіўся ён толькі з ручкі.

Неўзабаве выехалі за горад, у чыстае поле, на якім разпораз трапляліся велізарныя непрасыхаючыя калюжыны (Андрусь чамусьці палічыў іх азёрамі) — сьведкі працяглых дажджоў. Раптам тыя, хто глядзеў у вакно, убачылі незвычайную прыродную зьяву: увесь краявід закрыла шэрая смуга шчыльнага туману, за якім праз пяць метраў ужо нічога не было бачна, хаця хвіліну таму было яснае надвор'е. Доўжылася ўсё гэта метраў сто-дзьвесьце, з увагі на хуткасьць, потым «лакальны» туман сярод поля зьнік.

## Альшаны

У вёску Альшаны прыехалі, калі сонца стаяла ўжо адносна высока й пачынала прыпякаць нагрэтыя ў аўтобусе галовы. Падарожнікі трохі зьбянтэжыліся: шырокая шаша пасярод вёскі, «мерсы», BMW, прыгожыя дагледжаныя двары, задаволеныя ўсім бабулі й дзеткі, якія размаўляюць між сабой па-беларуску... Вёска выглядала так цывілізавана, што нашыя героі спачатку падумалі, што можа тут і запісваць няма чаго. Але, забягаючы ўперад, скажам, што сумненьні аказаліся дарэмнымі — падарожнікі знайшлі тут адметную культуру: своеасаблівае спалучэньне іншамарак і рэлігійных догмаў, акуратнасьць і працавітасьць баптыстаў, духоўнасьць і самадастатковую аскетычнасьць праваслаўных і, здаецца, так даўно страчанае на Беларусі задавальненьне сабой і жыцьцём.

Хто сказаў, што беларускі народ пасіўны?...

І вось талакоўцы стаяць у цэнтры Альшанаў на пякучым сонцы: самы час скіравацца ў цень і правесьці планёрку, бо, як высьветлілася, планаў ехаць у Альшаны не было, патрапілі туды зусім выпадкова. Ці не наступствы гэта вышэйназванага «жыткавіцкага сіндрому»? Аднак, калі прааналізаваць, чым кіраваліся арганізатары папярэдніх экспедыцыяў, нічога ўцямнага таксама высветліць ня ўдасца — тая ж адсутнасьць прадуманага прынцыпу дзеяньняў. Замест гэтага — спантанныя рашэньні, рамантычная настраёвасьць, турыстычная экзотыка і шчымлівая туга па нязьведаных пуцявінах — гэты п'янкі вецер вандраваньняў гоніць талакоўцаў у самыя вядзьмежыя куты рэгіёну. Адных цікавіць багаты фальклорны матэрыял, другія заўсёды кіруюцца жаданьнем наведаць архітэктурныя ды прыродныя адметнасьці, трэція ахвочыя да крэпкага сну на сьвежым паветры, рыбалкі і рабінзонаўскіх прыгодаў. Перыядычна паміж апалагетамі гэтых плыняў у працэсе выправы адбываюцца звады, сваркі і лаянкі, але дадзены артыкул ня ставіць мэтаю фіксацыю фонавага матэрыялу. Можа быць, альшанская планёрка і была падобным высьвятленьнем стасункаў, мы ж працягнем далейшае асьвятленьне падзеяў.

«Проста з моста» (Чыста інтуітыўна. — Рэд.) Ларыса выявіла патэнцыйных «інфарматараў»: пару бабуляў, якія з цікаўнасьцю аглядалі шэрых, кволых, нячосаных «дзетак» ці «турыстаў» (гэтак пяшчотна называлі нашых герояў вяскоўцы), якія вылезьлі з аўтобуса, як персанажы фільму «Каўкаская паланянка» з маразільні. Паважна, але напорыста ведучы размову, Ларыса дамовілася на вечаровую сустрэчу ў праваслаўнае частцы вёскі, дзе яшчэ жывіліся старыя традыцыі, ды даведалася адрэсы мясцовых сьпявачак і знаўцаў фальклору.

Далей група мусіла разьдзяліцца. Андрусь ды Уладзя рушылі выбіраць месца для табара, а ўся астатняя брыгада, пакінуўшы заплечнікі ў мясцовым Палацы Культуры з дазволу эмацыйнай і гаворкой загадчыцы, пачала агляд вёскі на прадмет асаблівасьцяў традыцыйнае культуры ды гаспадаркі.

Ва ўсім: у рухах калёсаў, у выразах твараў тубыльцаў было



адчуваньне нейкай мэтанакіраванасьці, непахіснай упэўненасьці ў слушнасьці жыцьцёвага кірунку. Большасьць насельніцтва вёскі Альшаны складалі пратэстанты: баптысты й пяцідзясятнікі. Жылі тут таксама й праваслаўныя, але ў асобным, невялічкім канцы вёскі (Андрусь казаў, што на Палесьсі йснуе «паляшуцкая» вера, і яе галоўны цэнтар — в. Рубель Столінскага р-ну). Выведнікі йшлі зараз па пратэстанцкай частцы вёскі, адносна новай і найбольш багатай. Варта зазначыць, што прадстаўнікі гэтай галіны хрысьціянства заўсёды вызначаліся любоўю да працы й поцягам да сямейнага дабрабыту; узгадаем нямецкіх каланістаў ці першых эўрапейскіх пасяленцаў у Амерыцы — «янкі». Дык вось, заможнасьць тутэйшых адразу кідалася ў вочы. Усё тут было вельмі нязвыкла, не падобна на тое, што талакоўцы прызвычаіліся бачыць у вандроўках ці на працы ў калгасе ў студэнцкі час. Быццам яны знаходзіліся не ў беларускай вёсцы, а дзе-небудзь у Польшчы ці Латвіі. Ну не павінна ў беларускай вёсцы быць ні ўвесь дзень цьвярозых людзей, ні цяпліц плошчай у пяць сотак, ні «Мерсэдэсаў» амаль у кожным другім двары, ні адметнага па прыгажосьці Малельнага Дома — будынка з шэрага каменя (як падарожнікам сказалі потым, гэты двухпавярховік быў пабудаваны нядаўна на сродкі саміх вернікаў). Карацей, усю дарогу па альшанскіх вуліцах трэба было круціць галавой — глядзець у розныя бакі.

Сапраўды, дзе яшчэ пабачыш парнікі плошчаю з сапраўдны цэх? У парніках з зямлі тырчэлі жалезныя коміны: ад печы для прагрэву глебы. У некаторых цяпліцах узровень «падлогі» быў ніжэйшы за ўзровень двара — перажытак вар'яцкіх савецкіх законаў: вышыня цяпліцы не павінна перавышаць 175 см. Хітрыя сяляне абыйшлі гэтую інструкцыю, выняўшы некалькі сантыметраў глебы з парніка, павысіўшы рэальную яго вышыню, пры гэтым удала ўпісваючыся ў межы дазволенага.

Як пазьней пачулі талакоўцы, вырошчваньнем гуркоў тут заняліся гадоў дваццаць таму, яшчэ за савецкім часам, але не праз сацыялізм і Маркса з Энгельсам. І калі спраектаваць сёньняшнюю сітуацыю на рамантычную эпоху «Liberum veto», дык можна не сумнявацца: альшанцам дастаўся б каралеўскі прывілей на гурковы гандаль і да яго герб — агурок-даўгунец у блакітным ці срэбным полі. У цэнтры вёскі на стратэгічным перакрыжаваньні віраваў гурковы кірмаш: шырока раскінуліся фуры і з усіх канцоў вёскі пад'язджалі калёсы, заладаваныя гэтай расьлінай — крыніцай райскага дабрабыту. Не сакрэт — пры спрыяльных умовах альшанцы здольныя заваліць гуркамі ўсю Усходнюю Эўропу і Цэнтральнай адсыпаць.

Але што цікава: заможнасьць тутэйшага люду, дагледжанасьць ахайных палеткаў, уладкаванасьць жыцьця кантрастуюць з калюжыстымі гразкімі вуліцамі, прасоўвацца па якіх пасьля дажджу выпадае адно на нацыянальным транспартным сродку — трактары «Беларусь». Ісьцінна: Альшаны — паселішча кантрастаў. Як шыкоўнаму BMW, што стаіць на вясковым падворку, перабрацца праз гэтую невычэрпную гразь?

Што край гэты ёсьць апірышчам пратэстанцкае канфесіі і ўсіх разmaітых ейных плыняў, можна было здагадацца яшчэ дарогаю па шматлікіх малельных дамах, адзін з якіх уразіў Кастуся сваёй безгустоўнасьцю. Але першае знаёмства з сістэмай сьветапогляду насельнікаў пачалося яшчэ ў аўтобусе, дзе адзін рашуча настроены неафіт прамовіў абвінаваўчую тыраду на адрас тэлевізіі, як спараджэньня апраметнай і завяршыў сваё казаньне анафемай з наступным вынясеньнем «аўтадафэ» кшталту «Карфаген мусібыць разбураны».

Азнаямленьне са сьветапоглядам тубыльцаў працягнулася й у Альшанах. У пратэстанцкай частцы вёскі падворак даглядалі адныя кабеты, бо гаспадары ў гэты час звычайна падаюцца ў «вырай» (на заробкі). (Тацьцяна чула, што мясцовыя жыхары на выходныя езьдзяць у Польшчу. Хаця не было б дзіўна, калі б гэтыя заробкі знаходзіліся нават у Амерыцы. Не такі ўжо далёкі сьвет для мэтанакіраваных альшанцаў). Як і кожная ідэя няроднага паходжаньня, баптызм на нашай глебе перажыў пэўныя мутацыі. Ва ўсялякім разе, краекутовым камянём разуменьня жыцьця ў гэтага люду зьяўляецца зарабляньне грошай. Матэрыяльны дабрабыт — асноўны крытэр чалавечай вартасьці. Традыцыйная культура ў іх вачох ня мае аніякай каштоўнасьці. На роспыты пра колішнія сьвяты, абрады ды звычаі першая рэакцыя была акурат як з тае рэкламы: круглыя вочы — «Кальвэ? — што гэта?». Пасьля дэталёвага тлумачэньня выказвалася асабістае стаўленьне да ўсёй гэтай «кухні» як да д'ябальскіх хітрыкаў; урэшце гасьцёў адсылалі па наступнай адрэсе («можа, там ведаюць...»). Але калі дзеля «эксперыменту» ў празрыстай форме вандроўнікі далі зразумець, што цікавая інфармацыя можа быць аплочаnай, у вачах адной кабеты зацепліўся жвавы агеньчык. Усё гэта пачало прыкметна пацьвельваць нашага мастацкага кіраўніка Лору, што мела наступствам такі дыялог зь (якім ужо па ліку) «інфарматарам»:

— Дык нешта ж вы ўсё-ткі рабілі на такія вось сьвяты [глядзець у вочы], нешта вы мусілі рабіць [марудна, з расстаноўкай]?

— Ды нічога не рабілі, не было нічога.

— Ну а чым вы займаліся; няўжо ў царкву хадзілі ды маліліся, каб гуркі расьлі?!

Пасьля гэткага дапушчанага ў роспачы сьвятататства да «татэмнае расьліны» Кірыла нахіліўся да вуха Кастуся ды ціхенька прамовіў: «Сёньня нас будуць біць.»

Толькі аднойчы этнографам пашэньціла: быў знойдзены першы альшанскі строй. Назавем яго «польскім». Чаму першы? Таму што потым быў знойдзены другі строй — мужыцкі. Гісторыя такая: спачатку вёска была цалкам праваслаўнай. Але прысутнасьць палякаў і немцаў з характэрнай для гэтых народаў рысай — гандлярствам, а таксама адносная блізкасьць мяжы, рухлівасьць і руплівасьць мясцовага насельніцтва — усё гэта стварала новы сьветапогляд, не характэрны для традыцыйнага беларуса-хатніка. Менавіта гэтыя ўплывы лічыліся мясцовымі жыхарамі больш прагрэсіўнымі й правільнымі, і таму ўсё больш цывілізаванае і новае тут звалася польскім. А называцца палякам лічылася вялікім гонарам.



Карацей, калі адна з апытваемых бабуль пачала ўзгадваць маладосьць, этнографы, страціўшы ўсялякую надзею, ня сталі прыпыняць яе пытаньнямі зь вялікай сіняй папкі, а проста слухалі. Яна пачала выхваляцца, які ў іх раней быў хор, як яны атрымлівалі першае месца ў Бярэсьці, як раней, нягледзячы на сьпякоту, шпацыравалі па вёсцы ў начышчаных ботах, што іх спадніцы былі шоўкавыя, чорныя й ня йшлі ў ніякае параўнаньне з тым, што насілі на другім баку вёскі. Вочы краязнаўцаў заблішчэлі, і яны сталі падрабязьней распытваць пра гэты «польскі» строй. Старой жанчыне цяжка было ўсё растлумачыць, тым больш, што апытальнікам былі невядомыя многія словы зь мясцовага дыялекту; і тут яна паведаміла, што гэты строй яшчэ «жывы» і яго можна ўбачыць, проста зайшоўшы ў хату.

Трэба сказаць, што за ўсё бессэнсоўнае апытаньне ніхто не запрасіў падарожнікаў у хату. Можа, баптысцкі бог гэтага не дазваляе? Гэта нагадвала некаторых старавераў, якія дадуць вады й шклянку ўздагон кінуць.

Валацугі апынуліся ў сенцах, дзе стаяў вялікі жалезны куфар і дзе менавіта хавалася ўсё й для ўнукаў і на сьмерць; і ўсё, што нагадвала маладосьць гэтай яшчэ прыгожай тварам кабеты.

Тацьцяніна місія была ў тым, каб моцна трымаць вечка, бо гэтым цяжарам можна было й зьнесьці галаву, а Ларыса з гаспадыняй корпаліся ў рэчах. Гаспадыня даставала, а Ларыса ківала галавой і зноў прагна глядзела ў куфар, яшчэ й яшчэ. Лорка не супакоілася, покуль ня былі знойдзены ўсе часткі строю. Тацьцяна стала ахвярай: яе абрадзілі ў строй і сфатаграфавалі. Усё было цудоўна, не хапала толькі чорных бліскучых ботаў.

Такі быў першы здабытак і першы вопыт: нельга сьмяяцца зь нечай (у дадзеным выпадку баптысцкай) адметнасьці, а трэба хаця б вонкава падтрымаць чалавека ў яго намаганьнях пазнаць гэты сьвет іншым шляхам.

Тым часам два кватэрмайстары, што рушылі ў пошуках прыдатнага мейсца для табару, выбралі па карце найболей пасоўны варыянт: недалёка за ваколіцай Альшанаў была пазначана нешырокая лесапаласа. Вырашылі ацаніць, наколькі яна адпавядае талакоўскім патрабаваньням. Выйшаўшы з вёскі, апынуліся на брукаваным заходнебеларускім гасьцінцы — старой дарозе, нібы сышоўшай з купалаўскіх радкоў. Ад летняга сонца хадакоў ратавалі новыя картузы ў старыя таполі, што, як водзіцца, расьлі паабапал гасьцінца. Здавалася, дрэвы былі там пасаджаныя яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай (у рамантычную эпоху «Liberum veto»). Наўсьцяж адкрываўся прыгожы раздольны краявід: на дзясяткі кіламетраў абапал шляху ляжалі жоўтыя палі й зялёныя пасьвішчы. Было надзіва горача, хоць мінула толькі дзесятая гадзіна, і толькі ўчора тут прайшлі дажджы. Лес ляжаў вузкай паласой, заціснутай між небам і бясконцымі палямі. Сапраўды, па штурманскай карце бліжэйшы лес быў у дванаццаці кіламетрах на поўдзень. Калісьці тут, на Палесьсі, былі непралазныя лясныя балоты, але польскія асаднікі з іх лесапілкамі й савецкія меліяратары карэнным чынам «перагледзелі» мясцовасьць. Палесьсе не супраціўлялася. Пазьней, у Велямічах нашым героям распавялі, што раней тут жылі хутарамі, але савецкай уладзе было зручней кіраваць калгасамі, таму балоты меліярыравалі, а людзей гвалтоўна перасялілі.

Нарэшце дабраліся да лесапасадкі, прычымісьці мусілі паўз імправізаваную вясковую сьметніцу, у якую ператвораная фактычна ўся ваколіца. Што ж, чым цывілізаваней сьвет, тым больш адкідаў ён пакідае пасьля сябе.

У невялікім вузкім і доўгім сасновым ляску быў невысокі пагорак, на ім — паляна, аточаная густымі нізкімі хвойкамі. Мейсца для табару ідэальнае. Сухое, зацішнае, ня бачнае з дарогі, да таго ж дровы ляжалі ледзь не пад нагамі і вада была побач — метраў праз пяцьдзесят знаходзілася вузкае падковападобнае возера, чамусьці не пазначанае на карце. Такі варыянт быў прыняты адзінагалосна.

Дарога назад заняла хвілін сорак з улікам стомленасьці і сьпёкі. Вярнуліся якраз своечасова: Палац Культуры зачыняўся і прыйшлося выносіць рэчы і разьмяшчацца ў скверы, пад засеньню дрэў. Пакрысе сюды падцягнулася ўся мужчынская частка групы. Сам сквер, Палац Культуры і аўтобусны прыпынак знаходзіліся ў цэнтры вёскі і ўтваралі своеасаблівую плошчу, але жыцьцё тлумных мітусьлівых Альшанаў у гэтым зацішным мейсцы праходзіла бокам, і нашым стомленым героям заставалася адно сузіраць яго, цікавяць за яго віраваньнем. Вёска сапраўды нагадвала нейкі дзелавы «сіці»; нехта некуды мэтанакіравана імкнуўся, туды-сюды штохвілінна сноўдалі амаль новыя іншамаркі, па столінскім тракце ішлі фуры. Ніводнага п'янага, падпітага, бадзяжнага, а гэта, згадзіцеся, для беларускай вёскі ўжо дзіва. Болей дзьвюх гадзін у цэнтры паселішча ляжалі лежма чатыры хлапцы, яўна нетутэйшыя, адметна апранутыя, адмыслова амуніраваныя, а да іх за гэты час ніхто не падыйшоў, не пацікавіўся, хто такія, адкуль, навошта тут і якія мэты перасьледуюць. Як гэта не падобна на вядомыя валацугам вёскі ўсходняе Беларусі (ды і заходняй таксама)... Паціху прытнае сонца, цёплы лагодны ветрык, лёгкі шолах лісьця нагналі салодкую дрэмоту, якая канчаткова адолела стомленыя маладыя арганізмы, як раптам...

— ! — салодкія абдымкі Марфея перарваў нейкі вокліч, сэнс якога застаўся недзе там, за мяжой рэальнасьці,— Разлегліся тут, гультаі, працаваць ня хочуць, ад жонак уцяклі!

— ? (калі б вас імкліва расчухалі ад сну і спыталі ў лоб, з якога канца Напалеон падпаліў Маскву, рэакцыя была бы падобнаю)

— Ішлі хаця б да мяне, я дам вам працу! — нейкі каларытны мужык сталага веку стаяў побач.

Першыя секунды пайшлі на арыентацыю ў прасторы і часе, а далей Уладзя спрабаваў выбрацца з тупіка: няўдалыя і недарэчныя фразы для альшанскага менталітэту — занадта груваcткая схема, каб даслухаць яе да канца. Чым дольш гаварыў Уладзя, тым болей упарты дзед умацоўваўся ў сваіх перакана790ньнях. Пабурчэўшы шчэ хвіліны з тры ён сышоў па сваіх справах, а талакоўцы сталі перад відавочным фактам: тэрмінова трэба было некуды ўкідацца, каб усё ж-ткі не муляць вочы, лежучы проста на плошчы. Неўзабаве вярнуліся Лорка з Тацьцянаю ды яшчэ з кавуном у руках. Уплятаючы кавун, рушылі да ўлюбаванае лесапаласы,



дарогаю пераконваючы жаночую ўпартасьць на карысьць удала выбранага месца.

«Што прадаяце?» — пачулі, выйшаўшы за мост. Пытаўся адзін зь седзячых на лаўцы мужыкоў. Перад ім у пяску коўзаліся дзеці. Увогуле, дзяцей у вёсцы было хоць і значна меней за гуркі, але таксама багата — маладая квітнеючая вёска выглядала дысанансам на фоне гінучай краіны.

Шлях з «поўнай выкладкай» быў дастаткова цяжкім, але ўжо блізу пяці гадзінаў вечара талакоўцы дасягнулі месца дыслакацыі. Хутка ўзяліся ладкаваць намёт ды гатаваць ежу. Месца для намёта выбралі ў заходняе частцы паляны, каб ранішняе сонца пасьпела яго сагрэць. Пасьля купаньня ў вышэйпамянёным (падковападобным) возеры надыйшоў час выконваць непасрэдную задачу — ісьці ў вёску па фальклорны матэрыял. Экспедыція падзялілася: Кірыла з Кастусём засталіся ў табары гатаваць ежу, прычым хлопцы падзялілі свой каравул: покуль адзін завіхаецца ля вагню, другі рыбаліць на возеры. Падчас Кастусёвае варты адбылося знаёмства з прадстаўнікамі маладога пакаленьня альшанцаў, якія прыскакалі на «жалезных конях». Магчыма, ёмістыя заплечнікі, параскіданыя па паляне, якія ўтварылі ілюзію шматлюднае экспедыцыі, на што намякаў Кастусь: «нашы ўсе пайшлі да вас», ды маніпуляцыі з сякераю, што вырабляў вартавы (намінальна займаючыся дровамі), адначасова пільнуючы, каб кола атачэньня не самкнулася з тылу, спрычыніліся да агульнага сяброўскага тону размовы.

Падчас купаньня Кастусь быў да замілаваньня ўражаны дзеяй, што адбывалася на возеры. Купальшчыкаў было багата і пераважную бальшыню з іх складалі дзеці. Дзеці як дзеці, але ж у гульнях ды забавах, а таксама зь незнаёмым барадатым дзядзькам яны перамаўляліся па-беларуску, хоць і зь мясцовым заходнепалескім пранонсам (Глядзі «Тураўскі дыялектычны слоўнік» — Рэд.). Нячаста даводзіцца сустракаць такое ў нашай рэчаіснасьці...

Дарога ў Альшаны бяз рэчаў ўжо не была такой цяжкай. Быў вечар, працоўны дзень скончыўся, і людзі проста адпачывалі, седзячы ля сваіх хат на лаўках, і калі валацугі праходзілі па «маладой» частцы вёскі, некаторыя цікавіліся: «Хто вы, адкуль?» Як паказаў дзённы дыялог у цэнтры Альшанаў, ніякія тлумачэньні ня здольныя каротка і ёміста ахарактарызаваць статус і мэты вандроўнага люду і таму яны ўхіляліся ад адказу, робячы рукамі ў паветры нейкія сімвалічныя знакі, паціскаючы плячыма і гамзаючы нешта невыразнае. «Массоны, одним словом»,— сказаў бы Якаў Пятровіч Стывенсан.

У першай хаце першае пытаньне цьвярозьніцы Ларысы было: «Чаму няма п'яных?». Адказ: «А хто ж будзе гуркі даглядаць?» (No comments). Паабяцалі сабраць хор.

— А ці не жадаеце вы есьці? — прапанавалі гаспадары ў час чаканьня. Што за пытаньне! Яблычкі, малако, хлеб, сала — на бярвеньнях ля калодзежа ўтварыўся імправізаваны стол. А Тацьцяне з Ларысай дазволілі зайсьці ў хату — паглядзець тканае. Тканага аказалася няшмат і ўсё вельмі старое, але патрыётка кашуляў Ларыса апранула сяброўку, атрымалася Тацьцяна на здымку, як прывід. Калі б жа яшчэ яна сфатаграфавалася са сваёй нязьменнай сіняй тэчкай, што адных «інфарматараў» прыводзіла ў сьвяшчэннае трымценьне, а другія глядзелі на яе ўладарку з павагай... Узаемадапаўняльны дуэт былі Ларыса з Тацьцянай. Першая сваім вясковым вібруючым голасам вяртала бабуль да жыцьця, а другая манатонным метадычным адхіляла іхнюю ўвагу ад дзетак і гусёў. Гэта была першая сустрэча, у якой валацугаў чакала паразуменьне.

Нарэшце бабулі сабраліся, чаго нельга было сказаць аб падарожніках. Покуль падыходзілі хлопцы, Тацьцяну абрадзілі ў трэці — мужчынскі строй з буйным расьлінным узорам і нават знайшлі для яе вялікія чорныя боты... Запіс хору быў працяглы. Бабулькі пелі аб'ёмна, але, на жаль, на стужцы засталася толькі іх манера выкананьня, слоў амаль не чуваць. Але ўсё ж тое-сёе ёсьць...

Нечакана апусьцілася ноч, Тацьцяна засталася пераначаваць у маладзіцы, якая адкрыла тут сваю ўласную цырульню, так што госьцю ўранку чакала, акрамя багатае ежы, яшчэ й памыўка галавы. Потым Тацьцяна праведала астатніх і, дамовіўшыся на час ад'езду, пайшла пачытаць яшчэ пра вясельле. Мясцовыя ўжо прызвычаіліся да яе й запрашалі на сьвята, якое планавалася на выходныя. Але дарога клікала далей. Запрашэньне было натуральным, бо распытвала Тацьцяна акурат пра гэта самае вясельле. Сватаньне да хлапца — першая нечаканасьць (у вёсцы быў звычай: сватаецца ня хлопец да дзеўчыны, а наадварот). Былі яшчэ такія даўнасьці, як кіданьне галаўнога ўбору на печ, як арыенціры печ-дзьверы. На жаль, Тацьцяна, не вучоная ў тэхнічных справах, ня здолела запісаць такую цікавую інфармацыю.

Да летніку йшлі ўжо ў цемры, якая зрэдку асьвятлялася фарамі праязджаючых матацыклаў — нежанатыя альшанцы выехалі на вячэрнюю матаджыгітоўку. Начное неба было ясным і такім празрыстым, што быў добра бачны «Milky Way» — Млечны Шлях, шчыльная паласа зорак паўз палову неба. Начная дарога, зорнае неба ды пачуцьцё выкананага абавязку настроілі валацугаў на лірычна-рамантычны лад, і яны засьпявалі простыя песьні. Нарэшце падышлі да лесапаласы і, рызыкуючы наляцець вокам на сасновую галіну, сталі шукаць сваіх. Трохі пакрычаўшы, пачулі галасы ў адказ і ўбачылі агеньчык вогнішча. Арыенцір быў знойдзены, і хутка ўсе былі на месцы. Дзеля праўды трэба зазначыць, што намёт быў разьлічаны на двух, самае большае — на трох чалавек; таму двое павінны былі правесьці ноч на зямлі пад адкрытым небам. Гэтымі «добраахвотнікамі» сталіся Кірыла і Кастусь. З надвор'ем пашэнціла (дарэчы, увесь тэрмін вандроўкі не было ня тое што ніводнага дажджу, а ніводнага воблака), таму гэтая перспектыва краязнаўцаў не палохала. Але іх чакала іншая непрыемнасьць. Не пасьпелі ўладкавацца й адысьці да сну, як навокал пачуўся характэрны, добра знаёмы беларусу гук высокага тону. Раніцою стала ясна, што альшанскія крывасмокі (ці крывацмокі? Рэд.) нічым не адрозніваюцца ад камарылы ўсіх этнаграфічных рэгіёнаў Белай Русі.

Мінула другая ноч экспедыцыі (не забывайце, што адлік жа ідзе не па днёх, а па начох).

Ранак сустрэў вандроўнікаў багатай расой — прыкмета



сонечнага дню. Паваляўшыся яшчэ гадзіны зь дзьве (покуль раса не сышла), яны падняліся, нагрэлі гарбаты (добра пры гэтым зазналі клопату зь вільготнымі дровамі), папілі й рушылі па чарзе да возера — купацца; бо чулі, што халодны душ і гарачы напой уранку дапамагаюць трываць дзённы сквар. Па вяртаньні з ранішняга купаньня Уладзя ўбачыў чэмпіянат летніку па вольнай барацьбе — Кірыла счапіўся зь Вітаўтам. Спачатку ў яго было жаданьне сказаць ім «брэк!», але ён ня ведаў прычыны пачатку спаборніцтва й вырашыў не перапыняць натуральны працэс высьвятленьня адносінаў.

Надышоў час крочыць на прыпынак, каб ехаць менскім аўтобусам да Давыд-Гарадка. На разьвітаньне кінулі апошні погляд на парнікі.

## Давыд-Гарадок

У Давыд-Гарадку папрасіліся ў работнікаў аўтавакзала занесьці заплечнікі ў будынак, а самі найперш вырашылі выкупацца. І лепшага месца дзеля гэтага не знайшлося, як у самым цэнтры гораду, непадалёк ад аўтавакзала, ля моста. Рака Гарынь ад летняе паводкі стала ўдвая шырэй, але тое не астудзіла жаданьня талакоўцаў яе фарсіраваць. Калі было пераадолена дзьве траціны шырыні, да плыўцоў пачаў імкліва набліжацца кацярок «ОСВОД», які заканваіраваў іх да пантону на супрацьлеглым беразе, канцавога пункту заплыву. З размовы, падчас якой талакоўцы зьлёгку прытанцоўвалі на распаленым жалезьзі пантону, высьветлілася, што яны мелі нахабства купацца ў цэнтры горада. Было прапанавана два варыянты рашэньня праблемы: вяртацца да месца старту па мосьце (што, дарэчы, ужо рабіў Уладзя), ці такім жа кролем назад. Бакі сышліся на другім варыянце. Сапраўды, галяком усё ж лацьвей плыць, чым бегаць па мосьце (у цэнтры горада).

Пасьля заплыву ад экспедыцыі аддзяліўся Кастусь — скончыліся выходныя, і ён мусіў зьехаць дадому.

У горадзе былі тры адметныя па вонкавым выглядзе царквы. Андруся цікавіла ў першую чаргу драўляная Георгіеўская, якую ў мясцовай транскрыпцыі мянуюць Юраўскай. Мяркую, аматарам даўніны добра вядомая гэта пабудова, узьведзеная ў першай трэці XVIII стагоддзя, таму паўтараць фразы з манаграфій па драўлянае архітэктуры — справа дарэмная, роўна як і знаёміцца з помнікам па фатаздымках, няхай і вельмі якасных. Трохзрубная Георгіеўская царква — пярліна палескага дойлідства, таму калі вашыя пуцявіны будуць пралягаць блізу Давыд-Гарадка, не палянуйцеся наведаць яе, гэткую падобную на самое Палесьсе. На жаль, Андрусь, які хацеў пабываць у храме падчас набажэнства, задаволіўся адно сузіраньнем яго звонку — дзьверы былі замкнутыя. Вакол царквы — старыя могілкі: нахіленыя крыжы ды купіны парослай травою зямлі. Маўклівы і велічны спакой... У такіх мясьцінах не чуваць, як бяжыць час.

З Давыд-Гарадка паехалі на Велямічы.

## Велямічы

У Велямічах, як выйшлі з аўтобуса, доўга сядзелі на прыпынку й меркавалі, куды б падацца на ноч: у ваколіцах вёскі не было ні лесу, ні больш-менш прыдатнага вадаёму. Аб'ехалі вёску на калёсах, якія належалі загадчыку ДК. Невядома, колькі б прасядзелі яшчэ, калі б Ягамосьць Выпадак зноўку не ўсьміхнуўся блуканцам. Непадалёк ужо другі раз праходзіў нейкі чалавек. Пацікавіўшыся ў вандроўнікаў, што яны тут робяць, ён рызыкоўна-гасьцінна (бо ягоная палова пра гэта нават не здагадвалася і пакідала за сабою права «неадэкватнага рэагаваньня») прапанаваў дзеля начлегу сваю хату. Уладзя пайшоў зь ім. 45 хвілін вясковец пераконваў жонку, каб дазволіла пусьціць нечаканых гасьцёў. Нарэшце яна згадзілася, і Уладзя прывёў з сабою астатніх.

Потым пайшлі ў ДК, дзе ажно да цямна доўжылася зьвядзеньне «веляміцкага альбому» (LIVE CONCERT. Volume of Wielamiczy). На пастой у хату прыйшлі ўжо амаль ноччу, але



«адбіцца» адразу не ўдалося: Пятро (так звалі добразычлівага гаспадара), відаць, ня кожны дзень прымаў такіх незвычайных гасьцёў; таму, дастаўшы пляшку, ён вырашыў адсьвяткаваць гэты выпадак, а таксама замірэньне з жонкай, і паклікаў усіх прысутных да стала.

Да гадзіны ночы выпівалі, распавядалі пра сябе, слухалі яго й увогуле размаўлялі пра жыцьцё. Трэба аддаць належнае гасьціннасьці суразмоўцы: валацугам, якія ноч правялі ў лесе й былі ўжо даволі брудныя, ён даў чыстую бялізну й выдаткаваў увесь спальны пакой. Пятро сказаў, што ён сам некалі правёў ноч у лесе (у ваколіцах Тонежа) й добра разумее тых, каму гэтак пашчасьціла. Пасьля гадзіны ночы ўсе... не, ня леглі. Пятро дастаў свой улюбёны акардэон, і яшчэ гадзіны зь дзьве сьпявалі старыя хіты.

— Чэр-вону р-руту... нэ шукай вэ-чо-р-рамы...— старанна нястройнымі галасамі цягнулі госьці за акампаніятарам,



узгадваючы словы.

Потым гаспадар вырашыў адпачыць і перадаў акардэон Уладзю. Той, ніколі раней ня браўшы гэты інструмент у рукі, усё ж здолеў адшукаць на ім тры знаёмыя ноты.

Вось і трэцяя ноч.

Ранішні «бадун» пачаўся неяк дзіўна: Уладзя ніяк ня мог уцяміць, дзе ён знаходзіцца й хто гэта такія побач зь ім.



Памяць вярнулася толькі хвілін праз трыццаць.

Уранку сышлі Кірыла зь Вітаўтам. Астатнія прайшліся да мясцовай Сьвята-Ільлінскай царквы і вырашылі, што наступным пунктам вандроўкі будзе Альпень — вёска, апісаная яшчэ Дуніным-Марцінкевічам у «Пінскай шляхце». Тут пашэнціла: не пасьпелі зрабіць пару крокаў па дарозе, як ззаду пад'ехаў грузавік, які і падкінуў.

## Альпень

У вёсцы Альпень жылі рэшткі «недарэзанай» бальшавікамі шляхты, якія з прыемным польскім акцэнтам распавялі пра наступ савецкай улады ў Заходняй Беларусі.

— Мой бацька быў не мужык,— з гонарам прамовіла адна панна ў размове з Лоркай.

— Як не мужык? — калі не мужык, тады хто?

— Шляхціц!

— А-а...

Праз нейкі час вандроўнікі ўспомнілі, што, пакідаючы Пятрову хату, пакінулі там і саганок. Трэба было вяртацца па рэчы, што ў паходных варунках робяцца каштоўнымі. Таксама Андрусь, чаго б гэта ні вымагала, хацеў наведаць блакітную царкву ў час службы. Таму, даручыўшы шляхетнай кампаніі забаўляць дзевак (ці то наадварот), Андрусь і Уладзя выправіліся ў зваротны шлях — у Велямічы па саганкі. Шлях быў ня зь лёгкіх — было апоўдні, ішлі па дарозе, што пралягала праз поле, дзе не было ніводнага дрэва; і паўдзённае сонца бязьлітасна іх паліла. Было зразумела, што без купаньня не абысьціся. Чым яны і не міналі скарыстацца, як трапляліся падарожныя канавы й вадасховішчы. Калі прыйшлі да Пятра (яго самога не было), аказалася, што саганок сапраўды быў там. Разьвітаўшыся другі раз з гаспадыняй, рушылі на прыпынак у надзеі, што, калі ня будзе аўтобуса, спыняць папутку. Тут прычакаў «аблом»: ніводзін казёл (савецкі джып) не жадаў падвезьці, і ў Давыд-Гарадок усю дарогу выпала плесьціся пешшу.

Тым часам пакінутыя дзяўчаты працягвалі сваю справу й распытвалі пра старое. Позірк седзячых перад фальклярыстамі паннаў быў ясны, сьпіны на дзіва прамыя, рукі спакойна ляжалі на каленях

— Не, у нас у вёсцы ніякіх Понковых няма, у нас толькі тры прозвішчы,— з гонарам казалі шляхоткі,— у нас вёска не забітая, як Альшаны.

— Альшаны — забітая вёска? — перапытала, не верачы вушам, Ларыса.

— У іх у ботах ходзяць нават у Пятроўку,— растлумачылі бабулі (з іншага боку, у чым жа яшчэ хадзіць, калі гразь непралазная?).

Адна з бабуль, Соф'я, аказалася сапраўднай гераіняй. У часы сваёй маладосьці яна не баялася спрачацца з пракурорам і сваім танклявым целам спрабавала абараніць касьцёл ад разбурэньня. Дарэчы, сьвятар касьцёла быў з Гомля й пра яго тут засталіся добрыя ўспаміны, таму што пры яго ўдзеле па вечарох граў выпісаны з гораду духавы аркестр. Цікавым было й паведамленьне, што гэты сьвятар увесну абыходзіў поле дзеля лепшага ўраджаю.

Яшчэ быў расповед пра суседку, таксама шляхотку, якая зараз пасе свае пяць кароў, копіць багацьце, а жыве адна. Што ж рабіць — шляхта да яе ня сваталася, а за мужыка хто пойдзе?

Хто пойдзе за мужыка? Дзіўна, пытаньне гэта тут яшчэ было актуальным. Нарэшце, хутка сустрэлася жанчына са шляхты, якая пайшла за мужыка. Але з адной умовай: каб ён меў дзьве адукацыі. Панна таксама мела адукацыю — скончыла гімназію. Аб гэтым у яе нават захаваўся дакумент, які яна з годнасьцю прадэманстравала. Дакумент быў на добрай паперы, напісаны чорным атрамантам па-польску й сьведчыў, што вучаніца была здольнай (на жаль, на здымку ён не атрымаўся). «Вучаніца» ня толькі добра вучылася, але й даволі прыгожа вышывала карціны «балгарскім крыжыкам». Гаспадыня пазнаёміла нас са сваім архівам. Такія здымкі можна знайсьці ў этнаграфічных зборніках,



як прыклады вопраткі мясцовага насельніцтва.

Род самой паненкі быў вельмі паважаны ў вёсцы. Яе бацька меў даволі гектараў зямлі, якую прыйшлося падзяліць паміж дзецьмі (іх, здаецца, было пяць). Старая жанчына распавяла, што ў іх вёсцы шляхта піла мізэркамі, а жанчыны наогул ніколі ня пілі. Аповеды (не паварочваецца язык сказаць «бабулі») слухачы закусвалі блінцамі, якія зь печы траплялі адразу ў рот. Калі ўсё, што магло быць распаведзена, было распаведзена, а што магло быць зьедзена, было зьедзена, дзеўкі яшчэ зайшлі на могілкі й пешшу, пад палячым сонцам, пайшлі ў Давыд-Гарадок. Раз-пораз іх абганялі фуры зь сенам. Перад самым горадам яны з асалодай паплавалі ў вялікім возеры, якое, поўнае як вока, стаяла з дзьвюх бакоў ад дарогі. Поўная безлюдзь дазваляла ім зрабіць гэта ў аўтэнтычнай манеры разам з вужамі. А потым здарылася тое, аб чым яны марылі ўсю дарогу. Іх падвезьлі. Падвезьлі — няхай ужо па горадзе — да самой станцыі. Так не спазьніліся (чаго баяліся і нават будавалі планы на гэты выпадак) і далучыліся да сваіх «рэлігійных» таварышаў.

## Блакітная царква

На службу ў царкву ўсяроўна спазьніліся... Праўда, вартаўнік дазволіў агледзець храм. Дарога пешшу з Альпені пад сонцам была вартая таго, каб убачыць храм знутры — на сьценах віселі абразы, нават не абразы, а сапраўдныя, вялікія па памерах карціны на рэлігійныя тэмы, манера выкананьня асобных з якіх нагадвала творы рэчыцкага мастака А. Ісачова. Але сапраўдная каштоўнасьць унутранага ўбраньня — іканастас другое чвэрці XVIII — пачатку XIX стагоддзяў, сярод якога іконы Хрыста Уседзяржыцеля і Маці Божай Адзігітрыі ў пасярэбраных шатах. Царскія вароты сярэдзіны XVIII стагоддзя — твор мясцовых разьбяроў,— выкананыя ў стылі ракако, даўно вывезла экспедыцыя ў Нацыянальны музей гісторыі й культуры. Упэўнена можна сказаць, што Георгіеўская царква – славутасьць краіны. Але храм спасцігаеш не ў экскурсійным парадку, а службаю, калі молішся дзе-небудзь у куточку, сьпяваеш на клірасе, завіхаешся каля падсьвечнікаў. На жаль, задаволіўшыся адно сузіраньнем, вандроўныя пакінулі ўрачыстую прастору старадаўняга храма: дарога кліча далей.

Калі праязджалі праз Прыпяць, зьвярнулі ўвагу на дамбы — рака цячэ па нізкай мясцовасьці, і ў час паводкі агульная плошча вады пашыраецца на многія кіламетры (ці ня тут некалі разьлівалася легендарнае «Герадотава Мора»?), таму чоўны на стрэхах палешукоў — рэч не залішняя.

У правінцыйным Тураве, цяпер гарадзкім паселішчы, а ў ранньім сярэднявеччы — сталіцы феадальнай Тураўскай дзяржавы і адным з буйнейшых гарадоў усходу Эўропы, наведалі краму.

## Дарога дадому

У Жыткавічах ля аўтавакзала экспедыцыю ізноўку сустрэла «суправаджэньне». «Пасьвіў» гэты міліцэйскі легкавік менавіта людзей зь вялікімі торбамі ці проста рабіў звычайны аб'езд участка, сказаць цяжка. На гэты раз за валацугамі назіралі значна меней за мінулы раз і так жа, разьвярнуўшыся, зьехалі.

На вакзале набылі квіткі да Гомеля, здалі рэчы ў камеру захоўваньня ды пайшлі ў парк. Пасьля парку яшчэ заставалася некалькі гадзінаў вольнага часу, а ў кінатэатры ля вакзала якраз пачынаўся знакаміты фільм «Тытанік», і Лорка пачала агітаваць за прагляд. Тры гадзіны трэба было недзе прабавіць, і ўсе згадзіліся, аб чым, дарэчы, не шкадавалі — фільм варты, каб паглядзець другі раз.

Апошняя, чацьвертая ноч вандроўкі прайшла ў цягніку на Гомель.

**На гэтым тэкст рэзка абрываецца. Яно зразумела: скончылася вандроўка — пісаць няма пра што. Але напісаць тэкст сталася лягчэй, чым надрукаваць яго. Табе ж, шаноўны чытач, выпала самае лёгкае. Прачытай, і паспрабуй уявіць, як гэта ўсё адбывалася. А калі раптам адважышся сам выправіцца нязведанымі пуцявінамі — не забывай занатоўваць свае ўражаньні. Пісаць табе будзе лягчэй, чым нам пасьля друкаваць. Да сустрэчы!**

**Рэдактар**





# Как я была Купалинкой



**Разьбіраючы паперы ў рэдактарскім стале (там завяліся мышы), мы знайшлі загадкавы тэкст, наяўнасьць якога пан рэдактар не здолеў растлумачыць. Маўляў, не знама адкуль прыйшоў. Мо па пошце хто падкінуў? Мо і па пошце. Але з ім трэба нешта рабіць, друкаваць, скажам, і тут узьнікае пытаньне, а ці маем мы права без дазволу аўтара гэта публікаваць?**

**Пан рэдактар мудра вырашыў гэтае пытаньне: «Калі тэкст ужо зьявіўся, ён зьявіўся не для інтымных чытаньняў. Я, між іншым, не тэлефон даверу.»**

**Таму на аксамітных старонках чароўныя купальскія эпізоды.**

Тот, кто ни разу не был на Купалье, даже не подозревает, как много он потерял. А та, кто ни разу не была Купалинкой, никогда не поверит, что сказка про Золушку — это не сказка вовсе, а самая настоящая правда.

Но начнем все по порядку. Итак, на Купалье мне предстояло быть впервые, поэтому собиралась я туда со смешанным чувством любопытства, страха, надежды, с покалыванием под ложечкой и предвкушением чего-то необычного, а также с полнейшим незнанием относительно того, что, собственно говоря, там будет.

Желающих поехать на Купалье было много, и всяких разных: кроме истинных «талакоўцаў», там были еще каратисты, парочка экстремалов, один чех(!) и даже гомельское телевидение в лице одной своей представительницы. Это всё, не считая людей из других городов, которые уже были на месте.

Схема прибытия к месту назначения: вокзал, поезд и через полтора часа - снова вокзал, но уже в Добруше. А потом бесконечно долго потянулись два часа, в течение которых мы добирались до места действа. О них я могу вкратце сказать только то, что дорога была очень длинной, погода — очень жаркой, а комары — очень голодными.

Когда мы наконец-то дошли (ура-ура-ура!), когда мы, обмазанные с ног до головы всякой всячиной против ползуче-летающих гадов, только-только собрались немного поваляться в своё удовольствие, нас (девушек) убедительно попросили (практически не повышая голоса) приготовить необходимый для Купалья инвентарь, причем сделано это было примерно в такой форме: «всем девкам - венки плести, а то никакого Купалья не будет!» Я, вспомнив 6-7-8-летний период из своего счастливого детства, изготовила венок из цветочков (1 шт.) для себя и венок из дубовых веток (1 шт.) для того единственного и неповторимого, которого должна буду выбрать. Кстати о единственном: мне с самого начала не нравилась эта затея, не хотела я никого выбирать и всё тут. Как оказалось в последствии, зря переживала.

Итак, венки были сплетены и мирно лежали и ждали своего часа. Пока мы отсутствовали, парни сложили огромный костер с шестом в центре и колесом на конце шеста (где они это колесо взяли, я так и не узнала).

Путем сложнейшей операции, с блеском выполненной Яўгенам Малікавым и Викой, наши каратисты лишились своего навеса от дождя (большой клеенки), а мы приобрели стол. Потом наступил бесконечный период нарезки пищепродуктов и равномерного их распределения по всему клеенчатому пространству. И вот: стол готов, костер готов, венки сплетены, темно - можно начинать.

Все уселись вокруг стола (кому места хватило); пустили келіх кола (ба-а-альшой стакан с водкой), представляясь, выпивая его содержимое и заедая все это традиционной для Купалья едой: белым сыром и яичницей.

Ровно в 12-ть зажгли костер, и началось то самое, ради чего все сюда приехали. Помню, на меня, как на новичка в этом деле, все происходящее произвело колоссальное впечатление. Представьте себе: ночь, огромный костер в центре, а вокруг него парни и девушки, все (почти) в белых одеждах, девушки (все) с венками на головах, поют, танцуют. Если честно, то у меня было чувство, что нахожусь я не где-то под Добрушем, в году 2001-ом, а в лесах некрещеной Руси, в веке эдак 8-9-ом. Было жутко интересно. Хотя с самого начала был взят такой быстрый темп (или это мне так с непривычки показалось), что я засомневалась, смогу ли я физически выдержать все Купалье. Но потом быстро забыла (напрочь) о своих опасениях, когда начались игры и мне было так весело, как никогда раньше.

Во время игр я не переставала краем глаза следить за всеми и думать, кого же мне выбрать (все равно ведь придется выбирать в конце концов, никуда от этого не денешься!). Было много мне незнакомых, и на них я и решила остановиться. Если честно, я с самого начала примети-



ла двоих: оба они были в белых рубахах, с кожаными нарукавниками, с длинными волосами и в татуировках, один — светленький, другой — темненький. Путем мучительного выбора между ними я в конце концов решила, что свой дубовый венок надену (т.е. выберу себе в пару) на голову светленькую. Определилась — и успокоилась.

А в это время праздник продолжался. На кого-то упал прогоревший столб (хорошая примета: значит, в этом году женится); кто-то чуть не сгорел в костре; кто-то предпочел дерево девушке и танцевал с палкой. Мой венок все время с меня сваливался, а под конец мне его вообще сломал некто, сильно увлекшись моей поимкой во время очередной игры.

Что мне очень понравилось, так это полнейший и неоспоримый матриархат, царивший на Купалье. Кстати, парней было гораздо больше, и это было очень хорошо, как сказала мне по секрету моя подруга.

Но вот близился конец, пришло время парням выбрать Купалинку. Как договорились в самом начале, Купалинкой должна была стать самая красивая девушка на Купалье, которая лучше всех танцует, поет, целуется и т.п. Все время я, конечно, где-то глубоко-глубоко внутри себя холила и лелеяла надежду, что выберут меня, хотя никаких шансов, как мне казалось, у меня не было. Поэтому вполне понятно и объяснимо моё столбнячное состояние и полнейшая невменяемость, когда меня вызвали к костру и при свете догорающих углей объявили Купалинкой! (Кто сказал, что мечты не сбываются?!) Правда, как оказалось впоследствии, у Купалинки только две привилегии: первая — тот, кого она выбирает, становится князем, и вторая — ее должны украсть черти (те, кому не достанется пары) и утащить в лес, чтобы князь ее нашел. Весело!

И вот, наконец-то, оно, самое главное: костер, с одной стороны — парни, с другой — девушки с венками на головах и дубовыми венками в руках. Мне, как Купалинке (самой главной), предоставляется право первой выбирать. Со всех сторон стали сыпаться советы; кто-то предложил вообще бросить венок в костер, тогда бы никакого князя не было. Дальше — просто: я прыгаю через костер, надеваю венок на того, на кого и хотела, мы беремся за руки, вместе прыгаем через костер обратно, целуемся и... убегаем в лес подальше от чертей искать папараць-кветку. Князь, как настоящий князь Купалья, сразу предложил мне пойти купаться голышом. Что было дальше — не ваше дело...

...Вернулись мы, когда уже стало светло; вокруг все еще горевшего костра было уже много народу. Мы поцеловались в последний раз — и князь уехал, оставив свою Купалинку в полном одиночестве.

Купалье закончилось.

Осталось много воспоминаний и надежда еще раз увидеть князя.

Чем вся эта история закончится для князя и Купалинки — вскрытие покажет.

**Аннушка (Купалинка)**

**Вось такі happy end. Дарэчы, калі паважаная аўтарка тэксту знаходзіцца ў зоне дасягальнасьці нашага аксамітнага руху, просім адгукнуцца й распавесьці, чым жа ўсё скончылася? Мо стацца й так, што працяг рамантычнай купальскай гісторыі зацікавіць нашых чытачоў ня менш за дынаміку й інтрыгу сьвята.**

# Восень. Могілкі. Талака.

**Зусім нядаўна, у адну зь нядзеляў было прынятае рашэньне ўзнавіць перапіс старых пахаваньняў на Навабеліцкіх могілках. Як вядома, «Талака» вось ужо болей за трынаццаць год апякуе найстарэйшы з захаваных гарадзкіх некропаляў. У Зьмітраўскія дзяды адбываюцца традыцыйныя талокі, на якіх суботна настроены люд ачышчае старыя закінутыя магілы ад палага лісьця, зрынутых дрэваў, сьмецьця і дзікага кустоўя. Не абмяжоўваючыся адно прыборкай тэрыторыі, краязнаўчая фракцыя «Талакі» і чальцы творчай кампаніі вольных мастакоў «Магілка» распачалі дзейнасць па зборы візуальнае інфармацыі. Што зьбіраюць на могілках творчыя людзі, просіма патлумачыць галаўнога магілкаўца Андрэя Скідана і старшыню «Талакі» Яўгена Малікава.**

**А.Ж.:** Дружа, ці не вызначае назва творчай кампаніі «Магілка» ўвесь накірунак вашай дзейнасьці? Ды й увогуле, што за яна?

**А.С.:** Каб грунтоўна разабраць тэму дапасаванасьці назвы нашай супольнасьці да любога кшталту дзеяў, ня толькі прыборак могілак, спатрэбіўся б асобны выпуск газэткі старонак на восем. Справа ў тым, што ў нашай краіне магілка паўсюль, і гэта асобнае паняцьце, ня будзьма яго кранацца. Што ж тычыцца канкрэтнае дзейнасьці: гадоў сем таму, паралельна з фатаграфаваньнем драўлянага местачковага дэкору, прыкладаў дамавое разьбы, мы вырашылі, што ня лішнім было б зафіксаваць таксама каваныя й літыя агароджы і крыжы Беліцкіх могілак — адметны, знаменны кавалак нашай спадчыны, дагэтуль нікім не запатрабаваны, не распрацаваны.

**А.Ж.:** Як ты мяркуеш, чаму?

**А.С.:** Усё, што зьвязана з пахавальнай тэматыкай, скажам так, ня вельмі прыцягвае людзей. Мяркую, у тым ліку і дасьледчыкаў. Патрэбны сваеасаблівы, паэтычны стан душы, сваеасаблівая псіхалогія, каб імкнуцца сюды дзеля пошукаў і назіраньняў. Але ёсьць людзі, якіх якраз такая сьпецыфіка і прываблівае. Узяць хоць бы Васіля. Для ягонае лірычнае натуры наведаньне могілак — суцэльнае сьвята. Менавіта ён і сумяшчае карыснае з прыемным.



**А.Ж.**: Апроч фотафіксацыі адметных пахаваньняў чым займаецца ваш дасьледчыцкі зьвяз?

**Я.М.**: Падчас прыборак на могілках нам часта задавалі пытаньні, — і ўдзельнікі талокаў, і прадстаўнікі прэсы, хто са знакамітых гомельцаў тут пахаваны. А мы ня ведалі адказу. Менавіта таму і вырашылі заняцца больш падрабязным дасьледаваньнем гэтых, а ў перспектыве, і гісторыяй іншых гарадзкіх некропаляў. Яшчэ раз адзначу, што тэма гісторыі гарадзкіх могілак на Беларусі і ня толькі на Беларусі не развітая. У нас у краіне дасюль выдадзеныя толькі дзьве брашуры па гэтай тэматыцы: менскай дасьледчыцы Алы Сакалоўскай «Кальварыя» і Міколы Гайбы «Могілкі і пахаваньні ў Навагрудку». Дасьледаваньне гарадзкіх некропаляў — гэта абсалютна нетрадыцыйны зрэз гісторыі гарадоў. Адносна добра вывучаная альбо перспектыўна вывучаецца палітычная, эканамічная, сацыяльная, культурная, рэлігійная гісторыя гарадоў (у тым ліку і Гомеля), а падыход — гэта погляд на горад зьнізу.

**А.Ж.**: Ці ўдалося ўбачыць што-небудзь адметнае?

**Я.М.**: Так. Намі ўжо былі адшуканыя дзьве надмагільныя пліты, падпісаныя «Въ память отъ князя Паскевича», пад якімі спачываюць тагачасны каморнік (землямер) княскага маёнтка М. М. Філонаў, археолаг-аматар ды краязнавец, і нехта Саладоўнікаў, асобу якога пакуль высьвятліць не ўдалося. Таксама знойдзены шэраг пахаваньняў прадстаўнікоў вядомага зь сярэдзіны XIX ст. гомельскага шляхецкага роду Крушэўскіх, якім да рэвалюцыі належаў «Паляўнічы домік»; магілы афіцэраў царскага войска, памерлых у гомельскіх шпіталях у перыяд 1915-17 гадоў, а таксама іншыя цікавыя знаходкі, якія мы покуль ня будзем агучваць.

**А.С.**: Хочу адзначыць, што акром як на могілках, ужо нідзе не сустрэнеш столькі ўзораў кавальскага майстэрства. Тыя мудрагелістыя балконы, тыя каваныя навесы над уваходамі, калісьці шырока распаўсюджаныя ў гарадзкой архітэктуры, дзе яны цяпер? Можна на пальцах пералічыць. А магільныя агароджы не падпалі пад зьнішчэньне. Вось цяпер нашая задача занесьці ўсё гэтае металічнае дабро на нейкі трывалы носьбіт, скласьці архіў і пасьля спрабаваць рыхтаваць матэрыял да публікацыі.

**А.Ж.**: А вы не баіцеся, што хутка і да могілак дабяруцца?

**А.С.**: На жаль. Сумны вопыт менскай Кальварыі паказвае, што апроч несістэмных актаў вандалізму нашае азьвярэлае грамадзтва здольнае да мэтанакіраванага зьнішчэньня старасьвецкіх пахаваньняў, сярод якіх, ясна, большасьць маюць ня толькі мемарыяльную, але й мастацкую вартасьць.

**А.Ж.**: А як вы ставіцеся да нядаўніх добраўпарадкаваньняў: зьявіўся новы мур, вароты?

**А.С.**: Мяркую, як шмат што ў нашай краіне, гэта адно вонкавая абводка. У сярэдзіне ўсё засталося, як было. І то добра! Маглі ж пакурочыць і старыя лядашчыя магілы — «зрабіць чыкі-чыкі». У нас цяпер жа курс на парадак і чысьціню, а вы ведаеце, у сялянскім лексіконе «вычысьціць», азначае «кастрыраваць».

**А.Ж.**: Гэта ў адносінах да каго?

**А.С.**: У адносінах да кабана. У нас любяць займацца выбарачнай кастрацыяй мінуўшчыны. Да юбілею паднавілі помнік вайскоўцам Другой сусьветнай вайны, а на астатніх юбілеяў няма.

**А.Ж.**: Дык, дружа, што ж рабіць у такой сітуацыі?

**А.С.**: Прыходзьце на могілкі шостага лістапада. Там разьбярэмся.

**Гутарыў Знаёмы Вам**

# Дзесяць год у катакомбах

чытайце ў наступным нумары



© Арыгінальная idea:
Творчая кампанія вольных мастакоў «Магілка»
Рэдактар: Т.Буль-Бутэліч
Шыхтоўшчык: Амеліна Тацьцяна
Мастак: Андрэй Скідан
Дырэктар: Я. Гарыстоўскі



© ТКВМ «Магілка»
верасень 2004

Шукайце нас у сусьветнай павуціне па адрэсе:
www.tsmoki.narod.ru
E-mail: talaka@tut.by
Дырэктар з падзякаю узгадвае «Гарт»
Папера афсэтная. Друк трафарэтны
Наклад 100. асобн.